ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання 37-ы
№ 5 (2274)
17 студзеня 1969 г. ПЯТНІЦА
Цана 4 кап.

Антон БЯЛЕВІЧ

## ПІСАЦЬ БЫ ЯСНЫМІ ПРАМЕННЯМІ...

Над далячынямі марознымі
Ўзляцелі верныя сыны.
Натхненне працы, сілу розуму
Зраднілі з космасам яны.

Не казкай добрай,—явай новаю
Бацькоўскай роднае зямлі,
Нібыта песняю вясноваю
У сэрцы нашыя ўвайшлі.

Пісаць бы яснымі праменнямі
Пра подзвіг іх, пра іх палёт.
І сёння поўны захаплення я, —
Узносіць славу новы год.

Мы сёння з Месяцам, з Венераю
Вядзём размову,—чуе свет.
Душой і сэрцам цвёрда веру я —
На Марсе мы пакінем след!


Уладзімір ШАТАЛАЎ


Барыс ВАЛЫНАЎ


Аляксей ЕЛІСЕЕЎ


Яўгеній ХРУНОЎ

# УПЕРШЫНЮ Ў СВЕЦЕ: СТЫКОЎКА КАСМІЧНЫХ КАРАБЛЁЎ НА АРБІЦЕ. ПЕРАХОД КАСМАНАЎТАЎ З КАРАБЛЯ Ў КАРАБЕЛЬ.

## НА ЗОРНЫХ ТРАСАХ

**4 кастрычніка 1957 года. Першы штучны спадарожнік Зямлі—на касмічнай арбіце. Пачатак касмічнай эры чалавецтва, абвешчанай Краінай Саветаў.**

**З тае пары кожны год знамянуецца новымі вялікі дасягненнямі савецкай касманаўтыкі.**

**Новы, 1969 год...**

**5 студзеня адправілася штурмаваць і даследаваць далёкія касмічныя прасторы савецкая міжпланетная аўтаматычная станцыя «Венера-5».**

**10 студзеня на трасу палёту да планеты загадак выйшла «Венера-6».**

**І вось сёння свет зноў захапляецца, зноў апладзіруе радзіме Кастрычніка.**

**14 студзеня. 10 гадзін 39 мінут маскоўскага часу. На арбіце штучнага спадарожніка Зямлі — савецкі касмічны карабель «Саюз-4». Пілатуе карабель грамадзянін Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт падпалкоўнік Шаталаў Уладзімір Аляксандравіч.**

«Адчуваю сябе выдатна. Бартавыя сістэмы карабля функцыяніруюць нармальна. Прыступіў да выканання праграмы палёту».

Такая была першая радыёграма касманаўта на Зямлю.

На трэцім вітку вакол Зямлі У. Шаталаў паведаміў: «Праграма палёту, эксперыменты і навуковыя даследаванні, запланаваныя на першыя тры віткі, паспяхова выканаў. Пры ручной арыентацыі карабель паслухмяна выканаў усе эвалюцыі і дакладна зарыентаваны на Сонца».

Шосты віток. Лётчык-касманаўт У. Шаталаў вядзе тэлерэпартаж з кабіны «Саюза-4». Яго бачыць і слухае планета.

15 студзеня. 4 гадзіны 12 мінут маскоўскага часу. Лётчык-касманаўт У. Шаталаў пачаў выкананне праграмы другога дня палёту. Ён назіраў за часцінкамі, якія свецяцца, фатаграфаваў воблачнае і снежнае покрыва Зямлі, дзённы і змрокавы гарызонты Зямлі.

Пятнаццаты віток. У. Шаталаў вядзе тэлерэпартаж з арбітальнага адсека, прызначанага для навуковых даследаванняў і адпачынку касманаўта.

«Здароўе і адчуванне выдатныя»,—паведаміў ён.

Гэта было ў 9 гадзін раніцы 15 студзеня.

**А ў 10 гадзін 14 мінут на арбіту спадарожніка Зямлі выйшаў другі савецкі карабель — «Саюз-5». На борце яго— экіпаж з трох савецкіх касманаўтаў. Камандзір карабля — падпалкоўнік Валынаў Барыс Валянцінавіч, члены экіпажа— бортінжынер, кандыдат тэхнічных навук Елісееў Аляксей Станіслававіч і інжынер-даследчык падпалкоўнік Хруноў Яўгеній Васільевіч.**

Камандзіры савецкіх касмічных караблёў далажылі:

«Пачалося выкананне праграмы сумесных эксперыментаў у касмічнай прасторы».

**А 16 студзеня ў 10 гадзін 45 мінут адбыўся цуд касмічнай навукі і тэхнікі — савецкія касманаўты правялі паспяховае збліжэнне і надзейную стыкоўку караблёў «Саюз-4» і «Саюз-5». Упершыню ў гісторыі касманаўтыкі на зорнай трасе — арбітальная касмічная станцыя!**

**Касманаўты Я. Хруноў і А. Елісееў ажыццявілі выхад у касмічную прастору і пераход у карабель «Саюз-4». У 15 гадзін 55 мінут паспяхова праведзена расстыкоўка караблёў. Зорны палёт працягваецца.**

### ПРЫВІТАЛЬНАЯ ТЭЛЕГРАМА КІРАЎНІКОЎ ПАРТЫІ І ЎРАДА КАСМАНАЎТАМ ТАВАРЫШАМ ШАТАЛАВУ УЛАДЗІМІРУ АЛЯКСАНДРАВІЧУ, ВАЛЫНАВУ БАРЫСУ ВАЛЯНЦІНАВІЧУ, ЕЛІСЕЕВУ АЛЯКСЕЮ СТАНІСЛАВАВІЧУ, ХРУНОВУ ЯЎГЕНІЮ ВАСІЛЬЕВІЧУ

Дарагія таварышы!

Ад імя Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР горача віншуем вас з ажыццяўленнем манеўравання, збліжэння, стыкоўкі караблёў «Саюз» і паспяховым пераходам касманаўтаў таварышаў А. С. Елісеева і Я. В. Хрунова з карабля «Саюз-5» у карабель «Саюз-4».

Гэта новае выдатнае дасягненне пацвярджае шырокія магчымасці савецкай навукі і тэхнікі.

Увесь савецкі народ ганарыцца вамі і жадае паспяховага выканання задання.

Сардэчна абдымаем вас і чакаем на роднай зямлі.

Л. БРЭЖНЕЎ,
М. ПАДГОРНЫ,
А. КАСЫГІН.

### АДКАЗ НА ВІНШАВАННЕ

Ад усяго сэрца дзякуем Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савету Міністраў СССР за гарачае віншаванне і клопаты аб нас. Адчуваем сябе добра. Запэўніваем, што заданне Радзімы выканаем.

Касманаўты:
ШАТАЛАЎ, ВАЛЫНАЎ,
ЕЛІСЕЕЎ, ХРУНОЎ.

## Паведамленні ТАСС 16 студзеня

**Сёння, 16 студзеня 1969 года, у 11 гадзін 20 мінут маскоўскага часу паспяхова ажыццёўлена ручная стыкоўка касмічных караблёў «Саюз-4» і «Саюз-5». Гэта адбылося ў момант праходжання караблёў над тэрыторыяй Савецкага Саюза, калі касмічны карабель «Саюз-4» рабіў 34-ы абарот вакол Зямлі, а «Саюз-5» — 18-ы абарот. Перад стыкоўкай экіпажамі абодвух караблёў былі правераны ўсе бартавыя сістэмы, аб стане якіх было далажана на Зямлю. У 10 гадзін 37 мінут пачалося аўтаматычнае збліжэнне караблёў, у выніку якога адлегласць паміж двума караблямі скарацілася да 100 метраў.**

**Затым камандзір карабля «Саюз-4» лётчык-касманаўт У. А. Шаталаў перайшоў на ручное кіраванне і, манеўруючы караблём «Саюз-4», ажыццявіў прычальванне да карабля «Саюз-5». Пасля прычальвання адбыўся ўзаемны механічны захват караблёў, жорсткае іх сцягванне і злучэнне электрычных ланцугоў. На этапах збліжэння, прычальвання і стыкоўкі ўсе сістэмы караблёў функцыяніравалі нармальна. Такім чынам на арбіце штучнага спадарожніка Зямлі была сабрана і пачала функцыяніраваць першая ў свеце эксперыментальная касмічная станцыя з чатырма адсекамі для экіпажа, якія забяспечваюць выкананне вялікага комплексу эксперыментаў і даследаванняў, а таксама камфортныя ўмовы для работы і адпачынку. Унутры станцыі паміж яе адсекамі ўстаноўлена тэлефонная сувязь.**

**Для далейшага выканання праграмы палёту арбітальная касмічная станцыя была сарыентавана камандзірам карабля «Саюз-5» Б. В. Валынавым. Працэсы збліжэння і стыкоўкі перадаваліся на Зямлю з дапамогай вонкавых тэлекамер.**

**Лётчык-касманаўт У. А. Шаталаў далажыў, што ўсе сістэмы станцыі працуюць нармальна. Параметры мікраклімату ў адсеках знаходзяцца ў зададзеных межах. Самаадчуванне касманаўтаў добрае.**

**Экіпаж станцыі выконвае праграму далейшых эксперыментальных работ. З касманаўтамі падтрымліваецца ўстойлівая радыёсувязь.**

**Палёт эксперыментальнай касмічнай станцыі працягваецца.**

□ □ □

**Сёння, 16 студзеня 1969 года, экіпажы касмічных караблёў «Саюз-4» і «Саюз-5», якія працягваюць палёт у састыкаваным стане, ажыццявілі новы выдатны эксперымент у касмічнай прасторы.**

**На трыццаць пятым вітку члены экіпажа касмічнага карабля «Саюз-5» лётчыкі-касманаўты Я. В. Хруноў і А. С. Елісееў надзелі скафандры і цераз люк арбітальнага адсека ажыццявілі выхад у касмічную прастору. Пасля правядзення раду навуковых эксперыментаў і назіранняў у касмічнай прасторы А. С. Елісееў і Я. В. Хруноў перайшлі ў арбітальны адсек касмічнага карабля «Саюз-4», знялі скафандры і занялі новыя рабочыя месцы побач з яго камандзірам лётчыкам-касманаўтам У. А. Шаталавым.**

**Работа па-за караблём і пераход праводзіліся касманаўтамі ў скафандрах з новай аўтаномнай сістэмай жыццезабеспячэння рэгенерацыйнага тыпу. Касманаўты А. С. Елісееў і Я. В. Хруноў адначасова знаходзіліся ва ўмовах касмічнай прасторы каля адной гадзіны.**

**Упершыню ў свеце на арбіце штучнага спадарожніка Зямлі ажыццёўлен пераход двух касманаўтаў з аднаго карабля ў другі. Гэты выдатны эксперымент стварае прадпасылкі для выканання такіх аперацый у космасе, як замена экіпажаў доўгачасовых арбітальных станцый або выратаванне экіпажаў касмічных караблёў пры аварыйных сітуацыях.**

**З дапамогай бартавых тэлевізійных сістэм працэс падрыхтоўкі да выхаду з карабля Я. В. Хрунова і А. С. Елісеева перадаваўся на Зямлю і назіраўся сеткай наземных пунктаў.**

**Выхад касманаўта Я. В. Хрунова ў космас, яго работа па-за караблём і пераход у карабель «Саюз-4» адбываліся над тэрыторыяй Паўднёвай Амерыкі і фіксаваліся вонкавай кінакамерай, устаноўленай на эксперыментальнай касмічнай станцыі.**

**Выхад, работа ў касмічнай прасторы і пераход у касмічны карабель «Саюз-4» касманаўта А. С. Елісеева адбываліся над тэрыторыяй Савецкага Саюза і перадаваліся на Зямлю з дапамогай тэлевізійных камер.**

**У працэсе выхаду ў космас і пераходу з аднаго карабля ў другі касманаўты падтрымлівалі паміж сабой пастаянную сувязь, камандзіры караблёў «Саюз-4» і «Саюз-5» далажылі, што стан усіх касманаўтаў добры. Бартавыя сістэмы караблёў працавалі дакладна і забяспечылі выкананне ўсіх работ, звязаных з ажыццяўленнем пераходу касманаўтаў.**

**Палёт касмічных караблёў «Саюз-4» і «Саюз-5» працягваецца ў састыкаваным стане. Праграма навукова-даследчых эксперыментаў паспяхова выконваецца.**

□ □ □

**Як паведамлялася ўжо, касмічныя караблі «Саюз-4» і «Саюз-5» 16 студзеня ў 11 гадзін 20 мінут маскоўскага часу састыкаваліся і ўтварылі эксперыментальную касмічную станцыю, якая робіць палёт па калязямной арбіце.**

**У ходзе палёту ўпершыню ў свеце быў ажыццёўлен пераход двух касманаўтаў з аднаго карабля ў другі.**

**У працэсе палёту станцыі і выхаду таварышаў Я. В. Хрунова і А. С. Елісеева ў касмічную прастору праводзіліся навукова-тэхнічныя і медыкабіялагічныя даследаванні і эксперыменты. Пасля выканання аперацыі пераходу касманаўты занялі новыя рабочыя месцы ў караблі «Саюз-4» і правялі эксперыменты па кіраванню арбітальнай станцыяй, а таксама праверку ўзаемадзеяння бартавых сістэм станцыі.**

**Параметры арбіты першай эксперыментальнай касмічнай станцыі складалі:**

**— перыяд абарачэння вакол Зямлі — 88,85 мінуты;**

**— максімальная вышыня над паверхняй Зямлі (у апагеі) — 250 кіламетраў;**

**— мінімальная вышыня над паверхняй Зямлі (у перыгеі) — 209 кіламетраў;**

**— нахіл арбіты — 51 градус 40 мінут.**

**У час чарговага сеансу радыёсувязі камандзір касмічнай станцыі таварыш Шаталаў У. А. далажыў, што прычальванне караблёў, іх стыкоўка і пераход касманаўтаў Я. В. Хрунова і А. С. Елісеева з карабля ў карабель выкананы строга па праграме.**

**У час пераходу касманаўты працавалі зладжана і ўпэўнена.**

**Сёння, 16 студзеня, у 15 гадзін 55 мінут маскоўскага часу касмічныя караблі «Саюз-4» і «Саюз-5» былі расстыкаваны і працягваюць далейшы палёт асобна.**

**Па дакладах камандзіраў караблёў і дадзеных тэлеметрычнай інфармацыі, стан здароўя ўсіх касманаўтаў добры. Бартавыя сістэмы караблёў функцыяніруюць нармальна. Ціск і тэмпература ў адсеках караблёў знаходзяцца ў зададзеных межах.**

**Праграма навукова-тэхнічных эксперыментаў і даследаванняў у касмічнай прасторы на караблях «Саюз-4» і «Саюз-5» паспяхова выконваецца.**

### ПРЫВІТАННЕ З БОРТА КАСМІЧНЫХ КАРАБЛЁЎ «САЮЗ-4» І «САЮЗ-5»

МАСКВА, КРЭМЛЬ.

З борта касмічных караблёў «Саюз-4» і «Саюз-5» дакладваем Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і Савецкаму ўраду: палёт праходзіць нармальна, паспяхова выкананы стыкоўка і пераход касманаўтаў Хрунова і Елісеева з карабля «Саюз-5» у карабель «Саюз-4».

Наша самаадчуванне добрае, настрой бадзёры, горача дзякуем Цэнтральнаму Камітэту роднай ленінскай партыі і савецкаму ўраду за аказанае нам высокае давер'е.

Касманаўты:
ШАТАЛАЎ, ВАЛЫНАЎ,
ЕЛІСЕЕЎ, ХРУНОЎ.


В. УСЦІНАЎ. КОСМАС (чаканка). З юбілейнай мастацкай выстаўкі.

